

*Людзьмі звацца! —*
*Янка Купала*

# Літаратура і Мастацтва

ВЫХОДЗІЦЬ З 1932 г.

ШТОТЫДНЁВІК МІНІСТЭРСТВА КУЛЬТУРЫ І САЮЗА ПІСЬМЕННІКАЎ БССР

Пятніца, 24 жніўня 1990 г. № 34 (3548) ● Цана 10 кап.


# ЗВАРОТ

## Камісіі Вярхоўнага Савета Беларускай ССР па адукацыі, культуры і захаванню гістарычнай спадчыны да грамадзян рэспублікі

Паважаныя грамадзяне Беларусі, дарагія маці і бацькі, чые дзеці ўпершыню пойдуць сёлета ў школу.

Далучэнне да школьнай адукацыі — гэта вялікая падзея як у жыцці малалетка, так і ў жыцці тых, хто за яго лёс адказвае. Агульнапрызнаная ісціна: лёс дзяцей — лёс будучыні народа, нацыі, дзяржавы. Жыццё беларускай нацыі ў апошнія дзесяцігоддзі ішло так, што яна апынулася пад пагрозай фізічнага і духоўнага вымірання.

Цень Чарнобыля — і радыяцыйнага і духоўнага — зацемрыў нашы далягляды. Рэспубліка перажывае цяжкі эканамічны, палітычны і маральны крызіс. Адна з яскравых праяў апошняга — сённяшнія нігілістычныя, ці ў лепшым выпадку абыякавыя адносіны да беларускай мовы. Да мовы народа, які шанаваў і бярог яе на працягу стагоддзяў як найкаштоўнейшы скарб сваёй душы. Да мовы, на якой створаны вялікая, прызнаная цэлым светам літаратура, беларускі нацыянальны тэатр. Да мовы, якая нядаўна абвешчана ў рэспубліцы дзяржаўнай, роля і значэнне якой ва ўмовах дзяржаўнага суверэнітэту Беларусі будзе ўвесь час узрастаць. Будзе! — бо ў гэтым зацікаўлены ўсе патрыёты Бацькаўшчыны. Будзе! — бо інакш словы пра духоўнае адраджэнне беларускай нацыі застаюцца пустым гукам. Духоўнасць—твар культуры, а мова — твар і культуры, і самога народа.

Вось чаму, шаноўныя бацькі, мы звяртаемся да вас з гэтым заклікам у спадзяванні, што вы не ўпусціце дадзенага нам, беларусам, гістарычнага шанцу, пранікніцеся патрыятычнымі клопатамі пра заўтрашні дзень роднага краю і накіруеце сваіх дзяцей у беларускія школы. Задумайцеся, разважце, і вы самі прыйдзеце да ўсведамлення, што толькі беларуская нацыянальная школа выведзе наш народ на шлях рэальнага нацыянальнага адраджэння. Будзе ў нас добрая свая школа—будзе неўзабаве, не за гарамі і ўсё іншае: і моцная, развітая эканоміка, і жаданы матэрыяльны дабрабыт, і высокая духоўная культура. Таму што толькі такая школа зможа выхаваць мільёны дзяцей разумнымі і клапатлівымі гаспадарамі роднай зямлі, толькі яна зробіць іх нацыянальна свядомымі грамадзянамі, якія будуць здольныя напоўніць абвешчаны дзяржаўны суверэнітэт рэспублікі рэальным зместам.

Будзьце ж дастойнымі вялікіх задач, што паўсталі перад усімі намі, дочкамі і сынамі Беларусі, — задач нацыянальнага беларускага адраджэння! Патрабуйце адкрыцця школ або хаця б на пачатку стварэння класаў на роднай беларускай мове!

Беларускія класы ў рускамоўных школах могуць і павінны стаць першым крокам да беларускамоўных навучальных устаноў.

Дастаткова ўсяго некалькіх бацькоў, якія жадаюць даць сваім дзецям беларускамоўную адукацыю,—і беларускі клас у рускамоўнай школе будзе адчынены.

Карыстайцеся правам, якое дае вам Закон аб мовах у Беларускай ССР: з першага верасня ён уступае ў дзеянне і абавязвае не толькі агульнаадукацыйную школу, але і тэхнікумы і ВНУ да паступовага пераходу на беларускую мову навучання. Помніце пры гэтым, што школа на беларускай мове не перашкодзіць вашым дзецям вывучаць рускую мову і дасканала валодаць ёю—моваю міжнацыянальных зносін. Гэтак жа, як і дзецям любой іншай этнічнай супольнасці ў Беларусі—вывучаць сваю родную мову. Сапраўды цывілізаванае грамадства — гэта грамадства высокай моўнай культуры, якая пачынаецца з ведання мовы свайго народа.

*Настаўнікі і выхавальнікі, якія ў прафесіянальнай дзейнасці пераходзяць на беларускую мову, не могуць быць абыдзенымі ўвагай грамадства.*

(Працяг на стар. 2).



Ансамбль «Лянок». У цэнтры — кіраўнік Якаў Дрынеўскі.



Карагод, карагод...

## А ў нас—дажынкі, дажынкі...

Песня жніўная, песня слаўная, працалюбная ды жаданая... Розныя матывы, канечне, здаўна гучалі ў ёй: жанкі, што жалі збажыну на панскім полі, і на долю сваю скардзіліся, і на тое, што дзеткам няма часу глядзець, і што свая палоска даўно пад сонцам асыпаецца. Тым не менш, радасць над усім верх брала, бо хлеб чаканы прыходзіў, бо неўзабаве меўся легчы на стале духмяны, сонцам наліты, каравай.

Прайшлі гады, мінуліся дзесяцігоддзі. Усё радзей на палетку ўбачыш жанчыну з сярпом—хіба што дзе-небудзь на няўдобіцы, куды камбайну не заехаць. Але серп усё адно на гарышча не схаваны, а калі і пыліцца там, дык толькі да таго моманту, як зажынкі пачынаюцца. І песні жніўныя таксама не забыліся...

Мінулай нядзеляю гучалі яны не дзе-небудзь за ваколіцай ці ў сельскім клубе, а ў стольным Мінску — у Цэнтры беларускага фальклору, на так званай Белай дачы, што размясцілася па вуліцы Казінца. Тут прайшло фальклорнае свята летняй пары «Жніво».

Спачатку радасць сустрэчы са жніўнаю песняю падарыў прысутным народны этнаграфічна-фальклорны калектыў «Лянок» Жыткавіцкага раёна. Ды не проста са жніўнаю—з нерушавай. Нерушавай—не дзеля гучнага слоўца сказана. Які прадстаўнічы том «Жніўныя песні» са збору «Беларуская народная творчасць», а такіх, якія перадаюць з пакалення ў пакаленне жыхары вёскі Буразь, там не сустрэнеш. Па-сапраўднаму улюбёны ў народную песню тутэйшы настаўнік Якаў Дрынеўскі, дарэчы, траюрадны брат мастацкага кіраўніка дзяржаўнага народнага хору БССР імя Г. І. Цітовіча Міхася Дрынеўскага. Першае выступленне цяпер знакамітага «Лянка» адбылося яшчэ ў 1946 годзе, якраз у гадавіну Перамогі над фашысцкай Германіяй. З таго часу і

(Працяг на стар. 2).

## Кнігапіс




А. КУЛЯШОЎ. Маналог. Вершы і паэмы. Мінск, «Мастацкая літаратура», 1989.

**Кніга — яшчэ адно перавыданне творчай спадчыны народнага паэта Беларусі Аркадзя Куляшова, у тым ліку і тых старонак, якія сведчаць аб грамадзянскай смеласці творцы, яго здольнасці нават тады, калі многае замоўчвалася і прыглянцоўвалася, гаварыць праўду.**




В. АДАМЧЫК. І скажа той, хто прыйдзе. Раман. На рускай мове. Аўтарызаваны пераклад Т. Залатухінай. М., «Советский писатель», 1989.

**Па-руску загучаў чарговы раман Вячаслава Адамчыка, у якім праўдзіва адлюстравана жыццё працоўных на тэрыторыі былой Заходняй Беларусі. Чытач зноў сустрэнецца з героямі, якія палюбіліся яму, пройдзе сцяжынамі іх.**




Р. СЕМАШКЕВІЧ. У калаўроце дзён. Аповесці. На рускай мове. М., «Советский писатель», 1989.

**Аповесці Рыгора Семашкевіча «У калаўроце дзён» і «Ясень», перакладзеныя на рускую мову Р. Шчадрыной, знаёмяць усесаюзнага чытача з прозай нашага пісьменніка, які заўчасна пайшоў з жыцця. Як і ў паэзіі, Р. Семашкевіч і ў прозе ў многім застаўся лірыкам. Аднак на гэты раз яго талент раскрыўся яшчэ гумарыстычна-сатырычнымі якасцямі.**




М. ДЗЕЛЯНКОЎСКІ. Прыгажосць — поруч. На рускай мове. Выданне другое, дапоўненае. Мінск, «Ураджай», 1989.

**Хараство роднай прыроды паўстае са старонак замалёвак, падарожных нарысаў Міколы Дзелянкоўскага. Аўтар даўно працуе ў рэдакцыі часопіса «Родная прырода», часта выязджае ў глыбінку. Убачанае і падказвае яму сюжэты і тэмы замалёвак — светлых, лірычна-пранікнёных і шчырых.**

*Чытаючы часопісы*

# ВЯРТАННЕ ПАМЯЦІ

НАСТОЙЛІВА раю чытачам не прайсці міма чарговага, другога нумара «Спадчыны»: штоквартальнік надзвычай змястоўны і цікавы.

Адкрываецца ён артыкулам М. Ермаловіча «Сведчанні «Слова...». Гэта — яшчэ адно пацвярджэнне таго, што невядомы аўтар сусветна вядомага твора «быў не толькі геніяльным мастаком, але і выдатным гісторыкам. Можна толькі здзіўляцца, наколькі ўсебакова і глыбока ведаў ён жыццё сучаснікаў і мінулае свайго народа, як упэўнена арыентаваўся ў заблытаным лабірынце тагачасных міжкняжацкіх адносін, абцяжараных бясконцымі ўсобіцамі». Ды ўражвае тут найперш тое, наколькі дасканала валодае матэрыялам сам М. Ермаловіч, як ён умее трапна даводзіць сваю думку, пераконваючы ў правамернасці менавіта гэтага, а не іншага вываду, хоць, здавалася б, думка гэтая сама па сабе ў нечым і спрэчная.

Сам я, прызнацца, найперш запыніў увагу на раздзеле «Вяртаецца да чытача». У ім прадстаўлена яшчэ сем твораў Я. Купалы, невядомых сучаснаму чытачу. Яны ўзяты Я. Саламевічам з газет «Беларусь», «Звон» і часопіса «Беларускае жыццё» і датуюцца 1919—1920 гадамі. Нагадаем, што купалаўская публіцыстыка друкавалася таксама ў другім нумары часопіса за мінулы год і ў першым — за сёлетні. Гэтае вяртанне спадчыны класіка нацыянальнай літаратуры — як вяртанне самой памяці народнай. Усё, пра што пісаў Я. Купала ў трывожныя і цяжкія гады станаўлення беларускай савецкай дзяржаўнасці, аб чым пакутліва думаў, у нечым і па сённяшні дзень застаецца пытаннем «адкрытым».

Узяць хоць бы артыкул «Незалежнасць», упершыню змешчаны ў газеце «Беларусь» 28 лістапада 1919 года. Ці не цяпер усё гэта сказана: «Калі гаварыць аб незалежнасці якой-небудзь новай дзяржавы, вызваленай вайной і рэвалюцыяй з-пад расійскага ярма, то гэта, здаецца, так і трэба, так і павінна быць... А вось загаварыце вы аб беларускай незалежнасці... Тут вам цэлую кучунагавораць усялякіх перашкод, недарэчнасцяў, што аж вушы вянуць слухаючы. На ўсякую іншую незалежнасць кожны з вамі пагодзіцца, абы толькі не на беларускую».

Далёка наперад глядзеў народны пясняр. Чытаеш нататку «Торжышча», таксама з газеты «Беларусь» за 20 лістапада 1919 года, і як бы адчуваеш спробу асобных «звышперабудоўшчыкаў» адмовіцца ад усяго роднага, нацыянальнага, прыняць узамен заходнюю эрзацкультуру: «Сягоння ідзе паганы торг за ідэі, за праўду векавечную, агульналюдскую. Сягоння таргуецца Захад з Усходам, заходняя культура — з усходнім адзічэннем, і таргуюцца за што? Таргуюцца за цэлыя народы, за цэлыя дзяржавы, а ўсё для таго, каб нажыцца, каб у гэтым агульным разбурэнні вытаргаваць сабе лішнюю капейку ці мільярд рублёў».

Купалаўскія выказванні «Думка за думкай», нататкі «Адбудова Беларусі», «Як у казцы», артыкул «Зямельная спекуляцыя», маленькі фельетон «Антанта» — усё гэта боль душы паэта і грамадзяніна, які дбаў пра будучыню народа, шукаючы і, на жаль, не заўсёды знаходзячы адказы на пытанні, якіх столькі ставіла перад ім жыццё, рэчаіснасць. Як, скажам, вось на гэтае: «Беларуская доля такая ўжо, што і гаварыць не варта. Вось хоць бы тая «вясна» народаў, аб якой так шмат яшчэ і цяпер гамоняць. Мо якому народу і прыйшла гэта вясна, але беларускі народ гэта «вясна народаў» так усё абмінае. Чаму так? Ці ж беларускі народ — гэткі вялікі і гаспадарны — не заслужыў на тое, каб і для яго бацькаўшчыны закрасавала? Ці ж ён, вякі ваюючы для славы і магутнасці сваіх суседзяў, не варты быў таго, каб адваяваць хоць крыху гэтай славы і магутнасці для самога сябе, для свайго краю?»

«Усё жыццё жыць хацеў я з людзьмі...»—ва унісон з думкамі Я. Купалы гучыць вершаваны радок І. Канчэўскага, доўгі час забытага беларускага паэта, які, кажучы словамі А. Луцкевіча, «дзеля вялікага ідэалу вызвалення свайго народа ад духавога, палітычнага і эканамічнага рабства» жыў і тварыў. Некалькі твораў І. Канчэўскага яшчэ ў 1988 годзе змясціў са сваёй прадмоўкай у часопісе «Крыніца» А. Бяляцкі. І вось яго чарговая публікацыя ў «Спадчыне» — з невялікім, але грунтоўным пасляслоўем, у якой даецца ацэнка і творчасці І. Канчэўскага, і яго поглядаў.

Тым, хто любіць творчасць У. Жылкі, прыйдзецца даспадобы яго апавяданне «Выпадак», узятае Б. Сачанкам з рукапіснага часопіса «беларускага паступовага студэнцтва» «Перавясла» за 1924 год. Гучаць у творы — хораша, роздумна-турботна — агульначалавечыя матывы дабра, людской еднасці, супольнасці, якраз тое, пра што доўга забываліся мы, выстаўляючы на першы план яго вялікасць «класавы інтарэс».

Нельга абмінуць і старонкі «Спадчыны», на якіх чуваць водгалас даўніх стагоддзяў. Творы К. Тураўскага, а таксама жыціе «Памяць святога нашага бацькі Кірылы, епіскапа Тураўскага», напісанае невядомым аўтарам (прадмова і пераклад А. Мельнікава); раздзел з «Хронікі Быхаўца», дзе расказваецца пра Грунвальдскую бітву (прадмова і пераклад са старажытнабеларускай В. Чамярыцкага); нарэшце, урыўкі з кнігі пісьменніка-гуманіста XVII стагоддзя С. Лаўксміна «Практычнае красамоўства, альбо Правілы рытарычнага мастацтва, якія трэба ведаць для складання прамовы» (прадмова і пераклад з лацінскай Л. Чарнышовай) — як шмат падстаў для роздуму даюць яны, як дапамагаюць пранікнуцца ўсведамленнем, наколькі багатая наша гісторыя і як шмат неабходна нам зрабіць, каб выжыць, застацца народам на буравейных паўстанках дваццатага і наступных стагоддзяў.

З іншых матэрыялаў «Спадчыны» — працяг публікацыі «Новага запавета» ў перакладзе і з каментарыямі А. Клышкі, згадка В. Хомчанкі пра А. Цвікевіча («Яшчэ пра аднаго...»), іранічная нататка А. Лукашука «Падарункі Сталіну»...

А яшчэ кідаецца ў вочы мастацкае афармленне нумара. Набыў ён сваё аблічча ў першую чаргу дзякуючы каляровым літаграфіям М. Басалыгі — сучасны погляд на мінуўшчыну, сучаснае мысленне аўтара, пазбаўленае гістарычных стэрэатыпаў. Тут жа і іншыя каляровыя ілюстрацыі — рэпрадукцыі «Краявіда з цягніком» Я. Драздовіча, мініяцюры «Евангеліст Лука» з Аршанскага евангелля, пра якое расказвае В. Шматаў, выявы беларускіх ручнікоў.

Чаго не хапае «Спадчыне», дык, канечне ж, плошчы. Ці не па гэтай прычыне няма ў нумары гэты раз рэцэнзій; ці не таму пераважае дробны, слепаваты шрыфт; ці не таму няма ілюстрацый, скажам, да краязнаўчага нарыса К. Шыдлоўскага «Друя» (ім адкрываецца перспектыўная рубрыка «Мястэчкі Беларусі»), да артыкула В. Бабровіча «Паэзія танца»... Ды з будучага года становішча павінна паправіцца: і аб'ём «Спадчыны» павінен павялічыцца, і перыядычнасць узрасце — часопіс пачне выходзіць раз у два месяцы.

**С. ВІРЗОЎСКІ.**

# ВАРТЫЯ ЎЗНАГАРОДЫ

**Прачытаў паведамленне пра тое, што падручнікі «Беларуская мова» для 6—9 класаў (аўтары У. Андрэенка, М. Яўневіч) дапушчаны да ўдзелу ў конкурсе на атрыманне Дзяржаўнай прэміі Беларускай ССР 1990 года.**

**Законам «Аб мовах у Беларускай ССР» беларускай мове, як вядома, нададзены статус дзяржаўнай. Яна цяпер пачне прымяняцца ва ўсіх галінах дзейнасці ў нашай рэспубліцы. Думаю, што па гэтых падручніках беларускай мовай будуць авалодваць не толькі дзеці ў школе, але і дарослыя.**

***Кнігі «Беларуская мова» для 6—7 класаў школ з беларускай* мовай навучання, «Беларуская мова» для 6—7 класаў школ з рускай мовай навучання, «Беларуская мова» для 8—9 класаў школ з беларускай мовай навучання на працягу многіх гадоў правяраліся ў школе, удасканальваліся іх аўтарамі і сталі стабільнымі.**

**У чым вартасць гэтых работ? У іх высокай якасці як тэарэтычнай, так і практычнай часткі. Прачытаеш любое правіла, азначэнне і ўбачыш дакладнасць і прастату. І здаецца, што нічога лішняга няма. Мяне здзіўляла заўсёды, колькі літаратуры трэба было прачытаць, каб напоўніць практыкаванні такімі цудоўнымі сказамі і тэкстамі. Пры гэтым усе яны мэтанакіраваныя, маюць і навучальнае, і выхаваўчае значэнне.**

**А колькі ў практыкаваннях прыгожых сказаў, якія захоўваюцца ў памяці на ўсё жыццё, колькі прыказак і прымавак. А колькі цудоўных звязных тэкстаў, якія наводзяць на роздум аб жыцці, аб чалавеку, яго радасцях і клопатах!..**

**Бярэш у рукі гэтыя кнігі з задавальненнем і працуеш па іх з такім жа пачуццём.**

**Не памылюся, калі скажу, што гэтыя 3 падручнікі напісалі аўтары, улюбёныя ў нашу родную мову, культуру, зямлю. І гэта адчуваецца з першай да апошняй старонкі кожнай з кніг.**

**У мяне, як у настаўніка, які больш як 20 гадоў працуе па гэтых падручніках, няма сумнення ў тым, што У. Андрэенка і М. Яўневіч заслугоўваюць высокай адзнакі — прысуджэння ім Дзяржаўнай прэміі БССР за падручнікі «Беларуская мова» для 6—9 класаў.**

**П. САКАЎ,**
**настаўнік беларускай мовы і літаратуры Хутарскай СШ Чэрвеньскага раёна.**

# ЖЫЦЦЁВЫ ШЛЯХ ЗАМКНУЎСЯ

**Самым першым паэтам, імя якога пачуў я ў сваім жыцці, быў Адам Міцкевіч. Памятаю, яшчэ ў дашкольныя гады, бываючы ў Навагрудку, вадзіў мяне бацька паглядзець курган Міцкевіча. У той далёкі час хатняй бібліятэкі ў нас не было, быў толькі зборнік вершаў Міцкевіча на польскай мове. У вольны ад сялянскай працы час чытаў яго бацька, а пазней—і я. Некаторыя творы завучыліся на памяць. Балады «Свіцязь» і «Свіцязянку» памятаю і цяпер. Так пастулова ўвайшоў у мой духоўны свет паэт-зямляк. Стаў часцей чытаць яго творы. А пасля захацелася прайсці і сцежкамі вялікага паэта.**

**Не раз быў у Доме-музеі Адама Міцкевіча ў Навагрудку. Сцежкі паэта прыводзілі мяне ў Завоссе, на азёры Свіцязь і Калдычэўскае, у Туганавічы і Шчорсы, да Каменя філарэтаў. А пазней і далей—у Вільню.**

**Пабыць ва ўсіх месцах, звязаных з жыццём А. Міцкевіча, вядома, цяжка. Жыццёвыя дарогі яго былі звілістыя. Прайшлі яны не праз адну краіну: Расію, Нямеччыну, Францыю, Швейцарыю, Бельгію, Італію. Абарваліся ў Турцыі (у Канстанцінопалі, цяпер Стамбул).**

**11 верасня 1855 года Адам Міцкевіч едзе ў Турцыю для арганізацыі польскіх легіёнаў (ішла руска-турэцкая вайна), каб прадоўжыць барацьбу за вызваленне Польшчы. Але здзейсніць свой намер яму не ўдалося. У Канстанцінопалі паэт захварэў і 26 лістапада памёр.**

**У 1856 годзе астанкі паэта былі перавезены ў Парыж, на могілкі Монмарансі, а ў 1890 г. —у Кракаў.**

**Будучы нядаўна на курсах удасканалення ў Польшчы, пашчасціла пабыць мне ў Кракаве, наведаць кафедральны сабор (касцёл) на Вавелю, у якім пахаваны Адам Міцкевіч. Саркафаг з астанкамі паэта ўстаноўлены ў склепе, у які вядзе кароткая лесвіца з касцёла. Роўна сто гадоў спачывае тут наш зямляк.**

**У свой час Адам Міцкевіч пісаў:**

**Нас вабіць невядомы край чужы,—**
**Цікава паглядзець. Але нязручна жыць...**

**І не толькі жыць... Каб зручней было паэту спачываць на кракаўскай зямлі, мы прывезлі з яго роднага Завосся шкатулку зямлі. Зямля ўзята з Жарновай гары, з вяршыні якой любіў ён дзівіцца на навакольныя пейзажы. Шкатулку з зямелькай роднага краю, па якім пясняр заўжды сумаваў, усклалі на яго саркафаг — злучылі пачатак яго жыццёвага шляху з канцом. Жыццёвы шлях замкнуўся.**

**А. ШОЦКІ,**
**настаўнік.**

г. Баранавічы.

# «ПАСЯГАЮ НА ВЯЛІКАЕ»

Георгій Колас

**Андрэй Макаёнак — вядомы і невядомы**

**Мая кніга «Аўтографы Андрэя Макаёнка» пайшла ў набор у выдавецтве «Мастацкая літаратура». У тым жа выдавецтве сёлета, да сямідзесяцігоддзя вядомага беларускага драматурга, выходзіць пяты, заключны том Збору твораў А. Я. Макаёнка. У пяцітомніку з'явіўся шэраг твораў і матэрыялаў, аб якіх нам не было вядома. Пад іх уздзеяннем мае «Аўтографы» папоўніліся новымі старонкамі, якія прапаную чытачу.**

*«Не забудь, читатель, что я никогда не являлся перед тобой в своем натуральном виде, но всегда несколько искалеченным».*

*М. Я. САЛТЫКОЎ-ШЧАДРЫН.*

КАЛІ згарэла дача, больш за ўсё яму было шкада сваіх ваенных дзённікаў — ад сорак першага па сорак трэці і за першыя пасляваенныя гады. І рукапісаў. Не адновіш?..

Аднавіліся. Знайшліся на гарышчы ў брата. І цяпер — чытаем. Рукапісы — не гараць?..

Лаўлю сябе на думцы: ці хацеў бы ён, каб гэта ўсё было надрукавана? Накіды. Чарнавікі. Эскізы. Анекдоты. Пісьмы. Часам — як дзіцячыя пялюшкі. З плямамі. Мы ж ведалі яго— дарослага... Аднак — ці ведалі?

Вось маналог, у дзённіку. Самапрызнанне: «Кстати, очень часто свое «я» я ставлю выше круга, в котором вращаюсь...» Як вам гэта падабаецца?

Далей: «...надеюсь на свои способности, что, черт побери, а все-таки я со временем вылезу на какую-то сопку, высоту, что я все-таки смогу что-то дать. Короче говоря — пасягаю на вялікае ў жыцці. Интересно, что скажет будущее?»...

Гэта напісаў у сорак сёмым годзе дваццацісямігадовы Макаёнак у Журавічах, дзе ён служыў памочнікам сакратара райкома партыі. У дваццаць сем — памочнік... А датуль, у арміі — памочнік ротнага палітрука...

«Ну и стервец мой политрук Мжавия. За каких-либо семь дней войны уже полысел, а что будет, когда попадет на фронт? Каждый день менять кальсоны будет» (1.07.41). Як вам — гэта? Толькі не спяшайцеся смяяцца з палахліўца Мжавіі. «Да, Петька прав, что человечество нуждается в войне. У него появилась дурная кровь. Верно! Человечество требует чудовищной встряски. Человек забыл, что он человек. Ему нужно дать зарядку. Нужно, чтоб он научился любить, любить человека. Любить жизнь, любить все по-настоящему. Ибо он уже начал загнивать» (24.08.1941).

Маральная пякотка? Слоўны воцат? З тагачасных уяўленняў пра вучэнне Ніцшэ? Або з Шпенглера, які лічыў, што ўсе ідэі ці не заўжды вырашаюцца праз зброю, што «ідэя,ператвораная ў кроў, крыві і патрабуе»?

Пяцітомнік Макаёнка — унікальны. Тут ён, бадай, увесь. І з глянцам, і без глянцу. Гэткіх збораў твораў не было дасюль, — прынамсі ў нас: заўсёды быў адбор. Мяркуйце самі, добра гэта альбо кепска, — перад намі «нехрэстаматыйны», «непрасеяны», «непрычасаны», «некласічны» Макаёнак.

Ён ніколі не казаў ні мне, як сябру-крытыку, ні іншым, ні інтэрв'юерам, што раней, чым напісаць «На досвітку», ён, акрамя аднаактовак, меў два замахі на жанр поўнаметражнай п'есы (навіна, якую нам адкрылі з выхадам другога тома, у наступных будуць новыя сюрпрызы), — «Ворагі» і «Выйгрыш». Першая — пра партызанскі рух... А ён жа неаднойчы кляўся, што да «Трыбуналу» нават не дазваляў сабе і падступіцца да вайны, бо: «...як пісаць аб тым суровым часе мне, сатырыку?» (т. V, с. 274*). Пра тое самае тлумачыў ён і мне: «А не камедый я, ты ж ведаеш, пісаць не ўмею» (ёсць і гэта ў пятым томе). Што «не ўмее» — я не ведаў. Ведаў — ён. Бо ён — паспрабаваў, і драма (гераічная) не атрымалася. Зусім не атрымалася. Таму, здаецца мне, дарэмна гэтак годзіць, як ліхой скуле, складальнік пяцітомніка С. Лаўшук у каментарыях да «Ворагаў»: «Пазнаць будучага А. Макаёнка ў гэтай п'есе, вядома, можна, аднак зрабіць гэта не так і проста».

Шчыра кажучы, калі б мне выпала не ў зборы твораў Макаёнка прачытаць такую п'есу, я сказаў бы: не, не ён! І я тым больш не рызыкнуў бы ўслед за С. Лаўшуком вось гэтак вылучаць яе на ўзроўні тагачасных драм ваеннай тэмы: «...больш умелай кампаноўкай дэтэктыўна-прыгодніцкага сюжэта, зладжанай, цікавай інтрыгай», а тым больш — імкненнем аўтара адмовіцца ад распаўсюджаных «стэрэатыпаў». Ад якіх? У параўнанні з чым? З «Палешукамі» і «Таварышам Андрэем» Яўгена Рамановіча? Ён іх не ведаў, не чытаў, не бачыў. І таму не меў патрэбы «адмаўляцца». З «Пробаю агнём» Кандрата Крапівы? Не той матэрыял і жанр. Адзіным творам, на які ў пачатку сорак сёмага мог арыентавацца А. Макаёнак (з пазітыўным ці адмоўным стаўленнем), былі «Заложнікі» Алеся Кучара, і гэта адчуваецца на «Ворагах», — ёсць пераклічка і сюжэтная, і нават персанажная, аднак няма імкнення пазбягаць «стэрэатыпаў», а, наадварот, ідзе прамое іх наследаванне (Келлеры і Штраўбе — ёлупні, прыдуркі, партызаны — ого-го!, а здраднік — такі гад, што аж у роце чорна, ён — «былы кулак.. Гарбун, урод, прагны»)... Мо таму сам Макаёнак і маўчаў пра гэты «першы блін»? І нам таксама сёння лепш было б змаўчаць? А мо — чараіцца з самім Андрэем Макаёнкам — з Макаёнкам-крытыкам?

З яго рэцэнзіі на кнігу твораў У. Галубка: «Добрае ўражанне пакідаюць амаль усе п'есы, змешчаныя ў кнізе...» Значыцца, не ўсе, — калі «амаль» (мы ж памятаем, як ён у «Зацюканым апостале» даў Малышу пра «амаль слова» цэлы маналог)... Якая ж думка Макаёнка: мо што-небудзь выкінуць (рэцэнзія ж — на рукапіс у выдавецтве)? Не! Ён прапануе: «Вось бы прасачыць творчы працэс у драматургічнай лабараторыі У. Галубка! Больш удзячнай тэмы і прыдумаць цяжка. Такое даследаванне магло б прынесці неацэнную карысць любому драматургу. Сталаму, здаецца, не меншую, чым пачаткоўцу».

Па макаёнкаўскаму пяцітомніку калісьці будуць вывучаць не толькі Макаёнка-драматурга, і не толькі тэатралы ды літаратуразнаўцы. Будуць вывучаць наш час. І нас. То як жа абысціся нам без дысертабельна-акадэмічных штампаў, якія і дасюль кіруюць намі, прымушаючы ўціскаць жывую супярэчлівую з'яву ў «графік росту»? Вось у каментарыях да п'есы «Выйгрыш», хочаш вер, а хочаш не, аматар-пачатковец Макаёнак падаецца С. Лаўшуком ці не як спелы майстра (толькі з-за таго, што здзейсніў «новы крок»: «...пралікі драмы «Выйгрыш» відавочныя, аднак ў параўнанні з «Ворагамі» гэта... крок наперад,.. адчуваецца рука пісьменніка-прафесіянала», які «навучыўся індывідуалізаваць псіхалагічную характарыстыку персанажаў, адшукваць спецыфічныя, непаўторныя рысы асобы, што ў творчасці для тэатра мае першаступеннае значэнне» (II, 366). Мо — паверыць? Але ж тады нам давядзецца западозрыць тагачасных рэжысёраў у нядбайнасці, бо твораў пра пасляваеннае сяло яны тады зусім не мелі, дык чаму ж адмовіліся ад такога выйгрышу першаступеннага значэння? Справа ў тым, што ў «Выйгрышы» няма поўнаметражнай прафесійнай п'есы — ёсць расцягненая на чатыры дзеі самадзейная аднаактоўка з псеўдакамсамольскім сленгам, сацспаборніцтвамі, з поступам «агульнага пад'ёму».

Такія п'ескі заахвочваліся на аглядах самадзейнасці, на конкурсах. На іх быў афіцыйны попыт. Макаёнак быў «заангажыраваным чыстапісцам», набываў сабе літаратурнае імя, аўтарытэт, не выбіваючыся з афіцыйна-культасветаўскай эстэтыкі. С. Лаўшук малюе нам фантазію на тэму адмаўлення Макаёнка ад намеру «прабіваць» свой «Выйгрыш» на якую-небудзь сцэну (бо нібы ўсвядоміў Макаёнак шкоднасць «бесканфліктнасці»). Нічога ён тады не ўсведамляў. Яму было як той Аўдоцці — здаць цяля на ферму, каб ніхто не папракнуў, і як Аўласу — выйграць. Будучы сатырык (у пяцідзесятым годзе) мог адно зайздросціць трыумфальным поспехам «Вяселля з пасагам» Дзякава, «Калінавага гаю» Карнейчука, «Жаваранкаў» Крапівы — шэдэўрам тагачаснага сацрэалізму.

Пішучы свой «Выйгрыш», Макаёнак меў перад вачыма, акрамя «Калінавых гаёў» ды «Жаўранкаў», яшчэ адзін «узор» — уласны драматычны твор, прэміраваны на рэспубліканскім конкурсе: пра тое, як прыехаў у калгас, дзе «ні граша, ні шастка, і ў засеках мышы здохлі з галадухі», новы аграном, як ён абгаварыў усё на камсамольскім сходзе, высунуў ідэю перавыканання планаў, спушчаных з райза (на пасяўную), агітнуў «выкарыстоўваць і кароў як цяглавую сілу», і за год — сляды вайны ліквідаваныя: дамоў набудавалі, балота асушылі, парнікоў панарабілі, пасадзілі сад, стварылі звенні высокага ўраджаю, разгарнулі сацспаборніцтва і выйшлі ў перадавікі, — над нашай Проняй зазвінелі песні як над той Кубанню:

**— Даўно нашы палі не бачылі такіх усходаў. Гэта, братка, як яго...**

**— Усходы шчасця.**

П'еса мела назву — «Узыходы шчасця». Шэсць карцін плакатных заклікаў. Адзіная жывінка на ўсю п'есу — персанаж з мянушкай «Вася з плюсам». Вельмі хочацца паверыць, што за ім схаваўся будучы сатырык? Толькі ж... дзённік! «Вот и еще волнует одна неизвестность: как решится судьба моих «Усходаў шчасця»? Черт знает, — подумаешь и кажется: неплохо написал, вернее, не о плохом... Если паче чаянья, эта пьеса пройдет, значит, кричи «ура!», Андрей, дело пойдет». Дарэчы, менавіта ў гэты дзень у дзённіку з'явіўся запіс: «Пасягаю на вялікае ў жыцці». Ніякага імкнення пазбягаць «стэрэатыпаў». Ёсць сумненні, ёсць ваганні, толькі не пра «бесканфліктнасць»: «...подумаешь, и чувствуешь, какой все-таки несовершенный детский лепет. Правильно, — театра не знаю — раз, и второе: драматургического опыта почти не имею... Если и провалится, то духом не упаду. Я сейчас, только что написав пьесу, понимаю, что я уже перерос ее, следующая будет намного лучше. Только больше работать и учиться. Да, интересно, перед кем из драматургов я преклоняюсь? А ни перед кем! И только потому, что я всех почти не знаю. А кого знаю — все хороши. Лучше меня».

Вось так. Пашанцавала Макаёнку. Не паставілі ні «Узыходы шчасця» (не зважаючы на прэмію), ні «Выйгрыш». Бо інакш, хто ведае, ці не ператварыўся б ён з «бычка» на лакіровачнай «вяровачцы», якога ён апеў-уславіў у аднаактоўцы «Быць бычку на вяровачцы», а потым у поўнаметражным «Выйгрышы», — ці не ператварыўся б Макаёнак у... «ахвярнага казла»? Ці не дзяўблі б яго як «лакіроўшчыка» (не Крапіву ж дзяўбсці)? І ці не стаў бы ён заложнікам так званай «бесканфліктнасці»? Мо каяўся б, — як давялося каяцца М. Вірту з-за «Хлеба нашага надзённага» ды нейкага свайго хвалебнага артыкула пра нейкі бесканфліктны фільм (дзяўблі і «пакаянне» — эпіграмамі: «Сказал нам драматург Вирта, что его линия не та, что для него, мол, для Вирты, все двери были заперты»)... Ці бараніўся б? Мо хутчэй за ўсё сядзеў бы ціхенька, як мыш пад венікам, — на месцы аўтара сцэнарыя «Вялікі пост» з яго рэдактарамі (А. Гінцбург, А. Кучар і М. Садковіч), — калі іх дзёўб прызнаны ўжо сатырык А. Макаёнак, — дзёўб за «лёгкасць думак незвычайную», за штучны пафас, за старанні старшыні пасляваеннага калгаса павялічыць спушчаны з раёна план сяўбы, за саладжавасць старшынёўскай клятвы школьніку, што будзе мець той «сала, хлеб і сшыткі», што «вучыцца будзе ў новай школе». Па заслугах дасталося А. Гінцбургу ў артыкуле Андрэя Макаёнка «Аб адным сцэнарыі і яго рэдактарах». Таксама па заслугах дасталося і яшчэ таму-сяму за тую ж «лакіроўку», — прынамсі, пастаноўшчыкам кінакарціны «Пяюць жаваранкі»: бач, яны «...для изображения плохого общественного хозяйства избрали объектом съемок... один из лучших колхозов Белоруссии — колхоз имени Гастелло» (V, 128). Адно шкада, што не сказаў ён, што ж іх падштурхнула на такое эстэтычна-ідэалагічнае злачынства... Прамаўчалі і «ахвярныя казлы»...

Так разлічыўся ён праз пэўны час з так званай «бесканфліктнасцю».

А як яна адбілася на ім самім?

«Калі паспрабаваць параўнаць «Узыходы шчасця» з «Выйгрышам», то ў больш выйгрышным святле паўстане першая з іх», — піша ў каментарыях С. Лаўшук (V, 344). Стоп. Першая — якая папярэднічала «Выйгрышу»? Дапусцім, «Узыходы шчасця» паўстаюць, як піша каментатар, «у больш выйгрышным святле», што ў гэтай п'есе «рост прафесійнага майстэрства відавочны». Толькі ж нешта тут не так. Дасюль, у другім томе, мы чыталі, што ў «Выйгрышы» (1948—1950 гг.) быў «рост» — у параўнанні з «Ворагамі» (1947). А ў чацвёртым томе нам даводзяць, што «наперад» можна крочыць, нават ідучы назад, бо ва «Узыходах шчасця» (1947) выявіўся «рост» у параўнанні з «Выйгрышам»?

«Па-першае, стаў больш высокім узровень асэнсавання жыццёвых праблем, якія пакладзены ў аснову сюжэтных повязей твора. Па-другое, стаў больш разнастайным арсенал мастацкіх сродкаў драматурга, што вельмі плённа адбілася на глыбіні псіхалагічнай характарыстыкі персанажаў». Словам, куды ні павярні, выходзіць «Вася з плюсам»?

Што замінае каментатару карыта называць карытам, смокву — смоквай? Адбылася блытаніна, і заблытаў каментатара — складальнік, Лаўшука — Лаўшук. Складаючы збор твораў Макаёнка (размяркоўваючы п'есы па тамах), ён «Узыходы шчасця» (т. IV) адарваў ад «Ворагаў» і «Выйгрышу» (т. II). Фармальна ён зыходзіў з прынцыпу «поўнаметражнасці»: ва «Узыходах шчасця» шэсць карцін, аднак няма падзелу тых карцін на акты, вось С. Лаўшук і пераносіць п'есу да аднаактовак, у чацвёрты том, а каменціруючы том другі, ён ці не ўвесь ліміт ухвал, запланаваных на «Узыходы», растранжырыў пры ўсхваленні «Выйгрышу», таму і давялося вынаходзіць у чацвёртым томе на «Узыходы» дадатковыя ліміты, вось і атрымалася, нібы па Чэхаву: нябожчык быў ад ног да галавы сто семдзесят, а з галавы да ног сто восемдзесят пяць.

Па чыстай мерцы «Узыходы» разам з «Выйгрышам» змяшчаюцца ў адной труне. Як і амаль усе аднаактоўкі Макаёнка. Не на іх ён узрастаў. На іх мог узрасці хіба што толькі аўтар п'ес накшталт «На досвітку»— змагар за чалавечыя правы французскіх пралетарыяў (англійскіх, аўстралійскіх, нават «антарктыйскіх»). Абаронцу беларускага сялянства ні адна з аднаактовак А. Макаёнка нам не прадракала, бо жывых сялян у гэтых п'есках не было — былі «клубнічныя» ці сацклубніцыстычныя пейзане. Сёння, сапраўды, чытаць іх, як лічыў сам А. Макаёнак, неабавязкова і не трэба, але ж варта ведаць «тупіковы варыянт», інакш не ўбачыш, па якой сцяжынцы Макаёнак выйшаў да сатыры.

Першая аднаактоўка — забягае ў хату Фрося («узбуджаная, радасная»), — ездзіла ў раён:

**— Ой, тата, што там было. Каб ты бачыў, што там толькі было! Народу колькі з'ехалася! Злёт стаханаўцаў — ці жартачкі гэта! А як упрыгожана ўсё?! Як на вялікае свята. Сакратар райкома партыі адкрывае злёт... І каго, ты думаеш, выбіраюць у прэзідыум? Мяне! Не верыш? Чэснае камсамольскае!**

Дальбог, без «чэснакамса-

* Далей у дужках рымскай лічбай будзе азначацца том, арабскімі — старонка гэтага выдання збору твораў А. Я. Макаёнка.

## З паэтычнай пошты

**Вянанцій БУТРЫМ**

### Свіцязянскае

«Калі навагрудскія ўбачыш
прасторы,
Ракітнік разгалісты, нізкі, —
Каня супыні ля
плужынскага бору,
Каб глянуць на возера
зблізку».

**А. Міцкевіч. «Свіцязь».**

**А за Парэччам гонкія хвоі,
вольхі — да хмар!..
І праз ляшчэўнік промняў
сувоі
коцяцца ў яр...
А ўзбоч Парэчча — не,
не сасоннік! —
бор — пры сасне сасна!
Выйдзе каторая з іх да тоні —
дасягне дна**

**адлюстраваннем узнёслай
кроны
ва ўлонні вод!..
Зачараваны пошумам-звонам
замрэ чарот...**

**Пане Адаме, стыль легкаважны,
аднак, прабач.**

**Я і не лірнік балюча-
сярмяжны,
І не сурмач...**

**Вузкі палетак, дробнае зерне —
ніва мая.
Рог не пратрубіць, і не паверне
Туган каня...**

**Адбушавала ў нетрах
стагоддзяў.
Лось ці алень
на бераг нізкі смела
выходзяць
у белы дзень.**

**Дужае цела, подых гарачы,
лёгкасць хады.
Ужо не забудзеш — ужо
пабачыў!
Ужо назаўжды!**

**Здарыцца часам: з поўдня,
пачую,
бура ўпарта брыдзе!
І як, счакаўшы гадзіну
ліхую,
дрозд перасвіст завядзе...**

**...Як раз апошні цёмным
Басфорам
паўмесяц плыў.
Ты ж бачыў грэбень
плужынскага бору!..
І поўню сніў...**

**Не мінарэта белага ззянне,
не кіпарыс, —
Ліпы старое ў цёплым тумане
мяккі абрыс,
бедны засценак, уціснуты
долу,
ростань вартуюць крыжы.
. . . . . . . . .
Дуб свіцязянскі страсае
жолуд
на брук з парыжскай імжы...**

Пераклад А. БЯЛЕВІЧА.

**Іван ЛАШУТКА**

### Няма забыцця на свеце...

**Няма забыцця на свеце —
Прадстануць прад вечным
судом
Нявінных расстрэл на дасвецці
І ўлады разгульнай садом.**

**І будуць дакорам сумленню,
Лугам і бацькоўскай раллі
Скрываўленых хлопчыкаў цені
На скалах афганскай зямлі.**

**Суддзём стане тут пакаянне
У нашай вялікай бядзе,
І кожны у гэтым дазнанні
Пачуе —
устаць, суд ідзе...**

### Слухаючы нядзельную пропаведзь

**Ад Мацвея, *Лукі* ці Ісайя
(Да высноў дабярыся, зрабі...)
Мне блакітны мой тэле вяшчае
Наймудрэйшыя з слоў —
«Не забі...»**

**Гэтым словам прыйшлося
радзіцца
На пачатку людскога быцця,
«Чалавечая кроў — не
вадзіца...»
І няма ёй вавек забыцця.**

**Як пароль дваццаць першаму
веку
Перадам, прашапчу зноў
і зноў —
Ад планеты жывой — чалавеку:
«Не забі...» —
наймудрэйшыя з слоў.**

г. Вілейка.

# ПАКУЛЬ ПРАВІЦЬ БАЛЬ УРАЎНІЛАЎКА...

**Праблемы музычнай педагогікі**

Пятнаццаць гадоў прарабіў я выкладчыкам у выканальніцкім класе ў музычным вучылішчы. Курыраваў і музычныя школы. Розных педагогаў сустракаў. Ёсць сярод іх тыя, хто страсна захоплены сваёй справай, музыкай і вучнямі, не зважае ні на звышвыдаткі нервовых сіл, ні на час, ні, урэшце, на асабістыя матэрыяльныя выдаткі, хто паказвае высокія педагагічныя вынікі. Ёсць і іншыя. Абыякавыя да стану нашай культуры, да душ дзяцей і падлеткаў; спакойна пазіраюць яны на тое, што адбываецца вакол. У лепшым выпадку яны толькі «даюць урокі», сумныя, якія не маюць да творчасці ніякіх адносін. У горшым жа — прыходзяць на працу, «адзначаюцца» і... на ўвесь працоўны дзень знікаюць з класа, вядуць бясконцыя гутаркі пра цэны, пра моду, пра здароўе і спорт, кулінарныя рэцэпты, займаюцца *рознымі пабочнымі справамі*. Пракантраляваць іх работу складана, бо ў музычнай адукацыі шмат індывідуальных заняткаў, сам-насам з вучнем. Гэтым і карыстаюцца такія ўрокадаўцы. (Хоць, па-мойму, фармальны кантроль, калі дырэктар ходзіць па калідорах і «пільнуе творчасць ад званка да званка», рэдка абуджае цікавасць да педагогікі). Так і працуюць яны побач: працаўнікі — залаты фонд педагогаў, і адкрытыя ці прыхаваныя абібокі.

Але што мяне заўсёды ўражвала, дык гэта ведамасці на зарплату. Паводле іх вызначыць, хто ёсць хто, немагчыма. Ці, аналагічны прыклад, выхад на пенсію. Вось праводзяць гонар вучылішча, як вышэйшую ўзнагароду ўручаючы яму грамату Міністэрства культуры (!), а вось — педагога, якога ў твар калектыў так і не запомніў. Пенсію ж будуць атрымліваць яны роўную...

Якое ж канкрэтна аблічча набыла пані Ураўнілаўка ў пачатковым і сярэднім звяне музычнай адукацыі? Абмяжуюся тут зараз толькі грашовым эквівалентам працы, хоць ясна, што пэўную ролю адыгрываюць і іншыя віды заахвочванняў. Зарплата залежыць ад запланаванага на год і выкананага аб'ёму вучэбных гадзін. *Чым больш гадзін, тым* вышэйшая зарплата. Аднак чым больш зацікаўлены педагог у поспехах сваіх вучняў, тым больш часу ён ім аддае, у тым ліку і па-за афіцыйным раскладам. Яму робіцца не па сіле весці вялікую вучэбную аплачваемую нагрузку. І наадварот: чым меней сіл укладае педагог, тым з большай лёгкасцю ён праводзіць афіцыйны вучэбны час, тым большую «нагрузку» ён можа ўзяць. Так нараджаецца спажывецкі стымул: горш працуеш — меней энергіі — больш вучэбных гадзін — вышэй зарплата.

Пэўнае адрозненне ў аплаце працы музыкантаў - педагогаў у школах і вучылішчах усё ж існуе. Яно залежыць найперш ад адукацыі (дыплома) і стажу. Але і тут свае дзівацтвы. Скажам, даплата за дыплом ВНУ аднолькавая, хоць ён кансерваторскі, хоць іншы, няпрофільны, — пасля філалагічнага, інжынернага ці якога-небудзь яшчэ факультэта. Ці трэба даводзіць, што *музычна - творчы патэнцыял* педагогаў будзе ў гэтых выпадках розны. Выпадкі ж работы не па профілю, асабліва ў школе, нярэдкія.

Што датычыць стажу, дык для педагагічнай кваліфікацыі гэта прыкмета другасная. Вядома, што станаўленне педагогаў інтэнсіўна адбываецца ў першыя 5—7 гадоў самастойнай працы. Потым шляхі разыходзяцца. Адзін вядзе да росту майстэрства, другі да паступовага прафесійнага завядання, да рэгрэсу. Але ўсе выбіраюць першы шлях. Мінаюць гады, і аказваецца, што камусьці няма чаго сказаць, а ў навучанні музычнаму мастацтву няма чаго паказаць. Можа, у нейкіх такіх выпадках было б больш гуманным —калі падумаць пра выхаванцаў — плаціць педагогу не за пражытыя гады (і за парадзелую прычоску), а за тое, каб ён знайшоў іншае месца прыкладання сваіх сіл...

Нарэшце, акрамя як за стаж і за дыплом, штомесяч*ная даплата робіцца пасля на*дання педагогу звання «метадыст». Бяда толькі ў тым, што званне гэта надаецца рэдкім адзінкам, а даплата вельмі нязначная. У музычнай жа школе гэтае званне і зусім адсутнічае.

Цікава хоць бы сяк-так па-

Старонкі ўспамінаў

# «САЛАВЕЙ» БЫЎ «ПЕРШАЙ ЛАСТАЎКАЙ»

**На календары — збег адметных дат, звязаных з першым беларускім савецкім балетам «Салавей». Спаўняецца 90 гадоў з дня нараджэння яго аўтара — кампазітара М. Крошнера. 6 студзеня адзначыў сваё 85-годдзе адзін з галоўных выканаўцаў спектакля народны артыст рэспублікі С. Дрэчын. 23 лютага споўнілася 80 гадоў з дня нараджэння пастаноўшчыка «Салаўя», выдатнага харэографа народнага артыста СССР А. Ермалаева. А з часу самой прэм'еры мінула паўстагоддзя.**

**Аляксандра Васільеўна Нікалаева, якая ў тыя гады была вядучай салісткай маладога беларускага балетнага тэатра, прапануе свае згадкі пра стварэнне першага нацыянальнага харэаграфічнага спектакля.**

Аўтар музыкі балета «Салавей» Міхаіл Крошнер прыйшоў у прафесійную творчасць, змяніўшы многія захапленні. Пачаўшы сваю музычную адукацыю як піяніст у Кіеўскай кансерваторыі, прадоўжыў яе ў Скрабінскім тэхнікуме ў Маскве. Тады, у 20-я гады, яго вабіла дзейнасць піяніста-выканаўцы. Нейкі час ён працаваў у Тагіле піяністам-імправізатарам у мясцовай «Сіняй блузе». Хутка зборнік «Живая театрализованная газета», які выдаваўся ў Пермі, змясціў на сваіх старонках «Піянерскі марш» М. Крошнера — і вось ён зрабіўся пастаянным музычным карэспандэнтам гэтага выдання. У 1931 годзе па пуцёўцы «Живой театрализованной газеты» М. Крошнер паступіў у Свярдлоўскі музычны тэхнікум на кампазітарскае аддзяленне ў клас Васіля Залатарова. Як вядома, прафесар В. Залатароў быў запрошаны для выкладання кампазіцыі ў створанай у 1933 г. Беларускай дзяржаўнай кансерваторыі, так што разам са сваім педагогам пераехаў у Мінск і М. Крошнер. У 1937 г. ён скончыў БДК, і сярод ягоных твораў былі кантата на тэкст пушкінскага «Тапельца», танцы для сімфанічнага аркестра, вакальная лірыка на тэксты А. Пушкіна і беларускіх паэтаў, шэраг апрацовак народных *беларускіх песень* і інш.

Яшчэ займаючыся ў кансерваторыі на кампазітарскім аддзяленні, М. Крошнер іграў на ўроках класічнага танца ў Дзяржаўным тэатры оперы і балета БССР. Тады ўласна тэатральнага гмаху яшчэ не існавала, рэпетыцыйнае памяшканне было ў невялікім клубе на Урыцкага, 13. Так, тут на першым паверсе мы *займаліся і рэпецііравалі*, а за раялем сядзеў Міхаіл Крошнер, студэнт кансерваторыі, і перад урокам ён заўсёды штосьці найграваў. Неяк ён папрасіў мяне падысці да раяля і паслухаць ягоны твор. Мне спадабалася тая «Мазурка», і я гэта яму сказала. Праз некаторы час Крошнер папрасіў паслухаць напісаны ім «Паланез». Праслухаўшы, я з усмешкай *сказала: «Гэтак, Міша, Вы на*пішаце цэлы балет... А што Вы думаеце — вось у нас у Ленінградзе ў вучылішчы на ўроках класікі таксама іграў студэнт Ленінградскай кансерваторыі Я. Мравінскі, і цяпер ён знакаміты дырыжор, а Вы напішаце балет, будзеце вядомым кампазітарам».

Міша адкінуўся на крэсле, закінуўшы рукі за галаву, шчыра смяяўся.

Мінула колькі часу, і М. Крошнер паведаміў, што яму спадабалася аповесць З. Бядулі «Салавей», і ён хоча паспрабаваць над ёю папрацаваць. Аповесць спадабалася яму сваёй цудоўнай мовай; глыбока народная і шчырая, яна давала вялікія магчымасці для стварэння балета, галоўным героем якога рабіўся народ, што ўзняўся на барацьбу за сваю свабоду і незалежнасць.

Хутка вядомым крытыкам — *мастацтвазнаўцам* Ю. Сланімскім і заслужаным артыстам РСФСР А. Ермалаевым быў напісаны сцэнарый балета, а ў снежні 1937 года сцэнарый абмяркоўваўся музыкантамі, драматургамі, крытыкамі, сярод якіх, памятаю, былі Самуйлёнак, Броўка, Шчаглоў, Кучар, Модэль і інш. Выступаўшыя таварышы адзначалі добрае разгортванне фабулы сцэнарыя, насычанасць яго беларускім танцавальным фальклорам, малавядомымі беларускімі танцамі. А як недахоп была адзначана вялікая колькасць панскіх сцэн. Пастаноўку балета даручылі Ф. Лапухову і А. Ермалаеву.

«Аповесць беларускага пісьменніка З. Бядулі «Салавей» усхвалявала мяне сваёй народнасцю, глыбокай шчырасцю. Ге*роі гэтай аповесці натхнілі мя*не на работу над балетам, — пісаў Крошнер. — Усе мы, аўтары спектакля, доўга шукалі прынцып, на якім павінен грунтавацца балет, нацыянальны па сваім змесце і вобразах, танцавальны ў балетным, а не ў этнаграфічным сэнсе. Адразу пасля заканчэння Беларускай кансерваторыі я пачаў пісаць музыку. Мне хочацца напоўніць музыку тымі якасцямі беларускага народа, якія так блізкія мне: яго задушэўнасцю, бясхітраснай паэтычнасцю, надзвычай высакароднай прастадушнасцю, шчырай любоўю да жыцця, непрымірымай нянавісцю да гвалтаўнікоў, цудоўным аптымізмам і чалавечнасцю».

Перад тым, як распачаць працу над балетам, аўтар аповесці «Салавей» З. Бядуля гаварыў, што «да стварэння нашага нацыянальнага балета неабходна прасякнуцца самабытнай *рытмікай нашага народа* ва ўсіх яго праявах. Не проста абнаўляць старое, а на аснове гэтага старога знайсці новыя шляхі. У нашым новым балеце трэба стварыць сваю ўласную школу, свой уласны стыль. Тут патрэбна не так просты запіс фігур, як сама іх душа — унутраны сэнс, няўлоўныя рысы, тэмпы і настрой беларускага народа».

Так, гэта было ўсё вельмі патрэбнае: класічны танец, народны беларускі танец, сучасная пластыка і няўлоўныя рысы, тэмп і настрой беларускага народа, — і гэта было самае цяжкае. Добра, што мы да пастаноўкі «Салаўя» станцавалі «Лебядзінае возера» П. Чайкоўскага, балет «Чырвоны мак» Р. Гліера, «Капелію» Л. Дэліба ў новай сучаснай трактоўцы Ф. *Лапухова, перанесенай ім з Ле*нінграда, «Бахчысарайскі фантан» Б. Асафьева ў пастаноўцы К. Галяйзоўскага; «Марную перасцярогу» Л. Герольда і балет «Дон Кіхот» Л. Мінкуса. Мы былі падрыхтаваныя да вялікай работы, але нацыянальны балет? Гэта было ўпершыню, і мы хваляваліся.

Спектакль рыхтаваўся да 22-й гадавіны Кастрычніка, да першай Дэкады беларускага мастацтва ў Маскве. Вядома, першая спроба стварэння нацыянальнага спектакля была вельмі цяжкая, вымагала пошуку. Сам А. Ермалаеў з групай артыстаў балета ездзіў па мястэчках і вёсках, вывучаў танцы, побыт беларускага сялянства. У *тэатр запрашаліся старыя выка*наўцы, якія захавалі першакрыніцы беларускага фальклору.

Мы, артысты, стараліся ўлавіць павадку, характар і каларыт *беларускага танца. Трэба* было стварыць балет, дзе дзейнічалі б жывыя, пераканаўчыя, тэмпераментныя і паэтычныя вобразы, у танцы перадаць настрой вялікай эмацыянальнай

